# БЮЛЕТЭНЬ

Прафэсыянальнага Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў Б. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі
Дом Працы
Тэлефон.
Старшыні ЦП № 4-08.
Арг. сектар. № 4-08.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ДВА ТЫДНІ

№ 9 | Ад 1-га сьнежня 1931 году | № 9


## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэсп. К-ту саюзу РЖС „аб арганізацыі гаспадарча-разьлікавых брыгад у жывёлагадоўчых саўгасах і зьменна-сустрэчным плянаваньні".

*Ад 29|XI-31 г.*

1. Адзначаючы недастатковай арганізацыю працы ў жывёлагадоўчых саўгасах, недастатковую яе вытворчасьць, нездавальняючыя вынікі па давядзеньні прамфінпляну да паасобнай брыгады, рабочага і практычнага яго замацаваньня, а таксама тое, што рабачкомы саўгасаў у сваёй практычнай рабоце не забясьпечылі адпаведнай пастаноўкі работы па разгортваньні і замацаваньні дасягнутых посьпяхоў сацспаборніцтва і ўдарніцтва і яго вышэйшых форм і мэтадаў і асабліва слабым месцам зараз зьяўляецца амаль поўнае адсутнічаньне работы па арганізацыі гаспадарча-разьлікавых брыгад і зьменна-сустрэчнага плянаваньня як новых вышэйшых форм сацспаборніцтва, арганізацыя гэтай работы не набыла яшчэ масавага адбітку—поўнаю бязьдейнасьць у гэтым паказалі трэстаб'яднаньні, якія да гэтай работы практычна ня прыступілі.

Улічваючы гэта Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу прапануе:

а) Зацьвердзіць распрацаваныя Плянава-вытворчым сэктарам інструкцыі па арганізацыі гаспадарча-разьлікавых брыгад і зьменна-сустрэчным плянаваньні, адначасва прапанаваўшы трэстам у 5-ці дзённы тэрмін забясьпечыць рассылку паказаных інструкцый у саўгасы, даўшы ўказаньне дырэктарам саўгасаў аб арганізацыі забясьпячэньня сваечасовага і поўнага вучоту для адпаведнай пастаноўкі арганізацыі гэтай работы, на падставе дасылаемых форм вучоту.

б) Зацьвердзіць распрацаваныя тыповыя дагаворы гаспадарча-разьліковых брыгад, адначасова раіўшы рабачкомам і кіраўніцтву саўгасаў прытрымлівацца паказанага парадку пры заключэньні дагавораў з брыгадамі па іншых працэсах работы.

в) Рабачкомам саўгасаў безадкладна мабілізаваць увагу рабочых, работніц і ІТР саўгасаў навокал гэтых задач абгаварыць на агульных сходах і вытворчых нарадах участкаў, цэхаў, бры-

гадах задачы гаспадарча-разьліковых брыгад і зьменна-сустрэчнага плянаваньня, інструкцыі, тыповыя дагаворы.

г) Для больш пасьпяховага праводзеньня гэтай работы—абавязаць кіраўніцтва трэстаў і саўгасаў, сумесна з Плянава-вытворчым сэктарам забясьпечыць своечасовае давядзеньня прамфінпляну да паасобнага цэху, вучастка, брыгады і рабочага ў квартальным, месячным і дэкадным разрэзе.

д) Лічыць мэтазгодным уключэньне гэтых пытаньняў у аб вестку дню склікаемага Ўсебеларускага зьлёту ўдарнікаў вядучых прафэсій.

е) Гэтая работа павінна разварочвацца на падставе далейшага разгортваньня індывідуальнага сацспаборніцтва ўнутры брыгад і арганізацыі спаборніцтва паміж брыгадамі, выкліку сумежных саўгасаў, арганізацыі грамадзкасьці праз масавыя формы вучоту станоўчых і адмоўных бакоў работы.

ж) Даручыць Плянава-вытварчаму сэктару ў дэкадны тэрмін распрацаваць і апусьціць формы інфармацыі рабачкомамі Рэсп. К-т, адначасова абавязаць рабачкомы кожнага 1-га і 15 га па гэтых формах інфармаваць Рэсп. К-ту саюзу.

з) Даручыць рэдакцыі газэты „Сельгасрабочы Бел.“ арганізаваць асьвятленьне ходу гэтай работы і перадачы вопыта з аднаго саўгасу ў другі.

і) Плянава-вытворчаму сэктару і трэстаб'ядняньням арганізаваць работу па сыстэматычным вывучэньні падпраўленьню і перанясеньню вопыта станоўчых бакоў работ гаспадарча-разьліковых брыгад у другія саўгасы.

Лічыць небходным у канцы студзеня месяца правесьці Ўсебеларускую нараду брыгадзіраў гаспадарча-разьліковых брыгад.

## ПРЫКЛАДНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ

### Па арганізацыі гаспадарча-разьліковых брыгад у жывёлагадоўчых саўгасах.

1. Гаспадарча-разьліковая брыгада, як адна вышэйшая форма сацспаборніцтва, будуемая на дабраахвотніцкай ініцыятыве рабочых, работніц і спецыялістых саўгасу—можа ствараца па асобных галінах і відах работ вытварчасьці саўгасу, якіе меюць закончаны гаспадарчы працэс. Прыкладна гаспадарча-разьліковые брыгады павінны ствараца па наступных галінах, цэхах і відах работ:

а) Скотны двор: брыгада даярак і скотнікаў, брыгада па догляду за цялятамі і брыгада рабочых малочных і масла-сыраробаў (калі гэтыя работы абслугоўваюць асобные рабочые).

б) Сьвінарнік: брыгада па догляду за хракамі, за супаросными маткамі (ў апошняй стадыі супароснсьці) і падсоснымі маткамі, брыгада па догляду за халастымі і супаросными маткамі першай стадыі супароснасьці, брыгада па догляду за рамонтным маладняком і адкормачнымі, брыгада па абслугоўваньні (прыгатаваньне, дастаўка кормаў і вады).

в) Канюшня: брыгада канюхоў.

г) Птушнік: брыгада рабочых абслугоўваючых птушнік.

д) Кральчатнік: брыгада рабочых абслугоўваючых кральчатнік.

УВАГА: Пры арганізацыі брыгад па ўсіх галінах жывёлагадоўлі такавые патрэбна ствараць па паказаных работах у паасобных гаспадарчых будынках.

е) Палявоцтва: брыгада трактарнай калёны, брыгада па рабоце на цягавай сіле, брыгада аратых, брыгада баранавальшчкаў, брыгада пасеўшчыкаў, асобные брыгады па акучваньні, полцы, прарэжваньні, раструсцы гною і г. д.

ж) Уборка: брыгады жніцоў, вязальшчыкаў, па копцы бульбы, карняплодаў, гародніны, садавіны і г. д.

з) Апрацоўка ўраджаю: брыгады па малацьбе, сартыроўцы, буртававаньню, сіласавньню.

і) Сенауборка: брыгады касарэй машынных і ручных, зграбальшчыкаў і стогаметальшчыкаў.

к) Перавозкі: брыгады па перавозцы паасобных відаў грузаў (гной, лесаматар'ял, кармы, паасобныя віды культур і г. д.

л) Будаўніцтва: брыгады па паасобным відам будуемых будынкаў з падраздяленьнем па спэцыяльнасьці будаўнікоў (сталяры, плотнікі, камяншчыкі, пячнікі і г. д.)

м) Падсобныя прадпрыемствы: брыгады па кузьні, сталярні, млыну, цыркулярцы і г. д.

УВАГА: а) Брыгады па пунктам „е" „ж" „з" „і" ствараюцца ў час правядзеньня кампаніі па паасобных культурах.

б) Дагаворы брыгад трактарных калён складаюцца па пасобных кампаніях і відах работ.

2. Тэрмін дагавароў (абавязацельстваў) гаспадарча-разьліковых брыгад могуць заключацца:

а) Па жывёлагадоўлі (скотны двор, сьвінарнікі, канюшня і г. д.) квартальныя, ці месячныя.

б) Па палявоцтву, лугавоцтву, агародніцтву, садаўніцтву, перавозках, будаўніцтву, і г. д. на тэрмін тэй ці іншай кампаніі ў тэрмінах прадугледжанных прамфінплянам.

УВАГА: Адміністрацыя абавязана даць нарад-заказ брыгадзе не пазьней як за 7—10 дзён да пачатку дзейнічаньня і падпісаньня дагавору

3. Колькасны склад брыгады можа быць ня меньш 3-х асоб і нябольш 15-ці.

4. У брыгадзе павінна быць арганізавана правільнае індувідуальнае сацспаборніцтва, бальшавіцкія адносіны да вытворчасьці, пры абавязкавым наліччы зьдзельна-прэміяльна-прэграсыўнай аплаты.

5. У выпадку, калі па паасобым гаспадарчым будынку, ці па паасобнай кампаніі маюцца адзінковые выпадкі з боку рабочых не жадаючых браць абавязацельстваў гаспадарча-разьліковай брыгады, магчыма ўтварыць перасоўкі гэтых рабочых на іншые віды работ, а на іх мейсцы вербаваць дабраахвотнікаў з другіх відаў работ.

6. Дагаворы з боку брыгады падпісваюць усе ўдзельнікі брыгады, а з боку адміністрацыі па паасобных брыгадах падпісваюць:

а) па сьвінагадоўлі—заатэхнік ці тэхнік сьвінавод.

б) па скотным дварам—жывёлавод ці заатэхнік.

в) па канюшне—старшы конюх.

г) па палявых і іншых работах—старшы рабочы ці загадчык вучастку.

д) па трактарнай калёне—калёнаважаты.

е) па будаўніцтву—прараб ці дзесятнік.

7. Узьнікаючые канфлікты ўнутры брыгады, паміж брыгадамі, а так сама паміж брыгадай і адміністрацыяй—вырашаюцца вышэйстаячай прафарганізацыяй сумесна з адміністрацыяй, ці РКК у залежнасьці ад канфлікту.

УВАГА: Калі канфлікт узьнік у цэху—вырашае цэхавы камітэт, на вучаску вучастковы і г. д.

8. Брыгада атрымаўшая ў працэсе работы эканомію, дзякуючы выдаткаваньню па эканоміі атрыманных матар'ялаў, а так сама ад перавыкананьня плянавых колькасных і якасных паказчыкаў можа скарыстаць гэтыя сродкі ў наступным парадку: а) на прэміі членам брыгады да 50%, б) адлічэньня на тэхнічнае выхаваньне ад 5 да 10%, в) адлічэньня на паляпшаньне сацбытавых умоў да 20%, і на гаспадарчае ўзмацненьне саўгасаў да 25—30%.

9. Эканомія атрыманая брыгадай у разьмеркоўваюцца самой брыгадай у залежнасьці ад работы і дасягненьняў кожнага брыгадзіра, не дапускаючы ні ў якім разе мэтадаў ураўнілаўкі.

Разьмяркаваньне прэмій узгадняецца абавязкова з 3-х кутнікам саўгасаў. Разьмеркаваньне прэмій утвараецца пасьля заканчэньня тэрміну і выкананья брыгадай дагавору.

10. Аплата працы брыгадзе ўтвараецца на падставе існуючых інструкцый і расцэнак аб зьдзельна-прэміяльна-прагрэсыўнай аплаце.

11. Адміністрацыя саўгасу павінна забясьпечыць точны і своечасовы вучот работы брыгад і паасобных брыгадзіраў па формах вучоту, дасылаемых разам з тыповымі дагаварамі.

12. Рабачкамам саўгасу на падставе дадзеных вучоту адміністрацыі павінен забясьпечыць адпаведную пастаноўку грамадзкай праверкі і вучоту выніку работы паасобных брыгад і брыгадзіраў, шляхам арганізацыі гэтай работы праз друк, дыяграмы спаборнічаньне паасобных брыгад, чырвоныя і чорныя дошкі і інш. Праверка павінна ўтварацца штодзённая, падэкадна і памесячная.

13. На кожнай створанай брыгадзе адміністрацыя саўгасаў абавязана скласьці ў пісьмовым відзе дагавор на падставе тыповых дагавароў, якія дасылаюцца.

14. Прафабслугоўваньне гаспадарча разьліковай брыгады ўтвараецца групавым прафарганізатарам, ці цэхавым, альбо агульнасаўгаскім рабачкомам.

15. Выключэньне са складу брыга-ы асоб, якія сьвядома ня выконваюць ]авязацельств дагавору, можа быць 'ворана рашэньнем брыгады, з наступ-ым пацьверджаньнем цэхавага, вучаковага ці агульнасаўгаскага рабачкому.

16. Адміністрацыя саўгасу ці вучастку ı тэрмін дзейнічаньня дагавору ня можа бяз згоды брыгады ўтвараць перавод работнікаў з аднэй брыгады ў другую.

17. Брыгадныя вытворчыя нарады павінны склікаецца старшым брыгадзірам штодзённа па сканчэньні работы.

18. Рашэньні вытворчай нарады брыгады павінны сваечасова выконвацца адміністрацыяй.

---

# ТЫПОВЫ ДАГАВОР.

(для скотных двароў).

Вырашэньне пастаўленай партыяй і ўрадам задачы разгортваньня сацыялісычнай жывёлагадоўлі, забясьпечваючай прамысловасьць сыравінай і рабочыя энтры мяснымі і малочнымі прадуктамі патрабуе мабілізацыі рабочай актыўнасьці яго энэргіі.

У мэтах ажыцьцяўленьня гэтай задачы і выкананьня і перавыкананьня пляну аўгасу на 193 г., павялічэньня таварнасьці, зьніжэньня сабекаштоўнасьці, паяпшаньня якасьці прадукцыі і сацбытавых умоў, мы ніжэй падпісаўшыяся, дырэкар (ці іншы адміністратар) саўгасу .......... тав. .............. з аднаго боку і брыгада ›абочых скотнага двара №......... брыгадзіра .............. званая ў далейшым брыгада другога боку, заключылі гэты дагавор у ніжэйнаступным:

1. Брыгада ў складзе т. т.................................................... працуючая на скотным двары №............... пад кіраўніцтвам старэйшага брыгадзіра ав. .............................. пераходзячы на сацыялістычны-гаспадарчы разрахунак, бярэ на :ябе ў працягу кварталу, ці месяцу, гэта значыць з............................ мес. па .................. иес. выканаць наступныя абавязацельствы:

а)

| №№ п. п. | Заданьне адміністрацыі па пляну | Сустрэчны плян брыгады | Выкананьне |
|---|---|---|---|
| 1. | Удой (літраў) . . . . . . . . . . . . . | | |
| 2. | Вырасьліваньне маладняка (вага) . . | | |
| 3. | Сабекошт 1 літра малака . . . . . . . | | |
| 4. | —„— 1 галавы маладняка . . . . | | |
| 5. | Злучка (колькасьць) . . . . . . . . . . | | |
| 6. | Захаваньне маладняка (колькасьць) . . | | |
| 7. | ........................................ | | |

б) Брыгада абавязуецца ўтрымоўваць у чыстаце ўсю жывёлу і скотны двор (згодна існуючых ў саўгасе правіл унутранага распарадку).

в) Правільна і эканомна расходаваць кармы (нормы устанаўліваюцца ў дагаворы), адначасова скараціць пацеру кармоў, як пры харчаваньні ската так і пры падвозцы кармоў да мейсц стаянкі ската.

г) Строга і точна выконваць указаньні зоовэтперсаналу па догляду, утрыманьню і харчаваньню жывёлы.

д) Зжыць зусім прагулы па неўважлівым прычынам.

е) Шляхам беражлівых адносін да інвентару павялічыць тэрмін яго службы.

ж) У ліцэ брыгадзіра весьці штодзённы вучот выконваемой работы як усей брыгадай так і паасобнымі брыгадзірамі, шляхам скліканьня кожны дзень брыгадзірамі пасьля работы дзесяці пятнаццаці хвілінных вытварчых нарад, падагуліваючых вынікі дзеннай работы і плян работы на наступны дзень.

з) ..................................................................

і) ..................................................................

к) ..................................................................

л) ..................................................................

2. Адміністрацыя абавязуецца:

а) Забясьпечыць кармамі і падвесьці іх у кармавые адзяленьні скотнг двара з разьліку патрэбы на адну галаву ў дзень, а падсьцілкі з разьліку падвс да ўсіх галоў скотнага двара. Кармы ў кармавые адзяленьні і падсьцілка падвозяц да скотнага двара з запасам ня менш як на тры дні і поўнасьцю на час вяснов і асеньняй распуцьцы.

| Від корму і падсьцілкі | Кашт. к'лё | Норма кармоў на дзень | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Для кароў дойных | Для сухас. кароў | Маладн. | Для быкоў | Усяго кармоў |
| Сена . . . . . . . . | | | | | | |
| Саломы . . . . . . | | | | | | |
| Сіласу . . . . . . . | | | | | | |
| Карняплодаў . . . . | | | | | | |
| Аўсу . . . . . . . . | | | | | | |
| Жмыхоў . . . . . . | | | | | | |
| Атрубей . . . . . . | | | | | | |
| Падсьцьлкі . . . . . | | | | | | |
| .................... | | | | | | |
| .................... | | | | | | |
| .................... | | | | | | |

б) Прадставіць у распараджэньне брыгады інвентар:

| Назва інвентару | Колькасьць | Каштоўн. | Сума | | Тэрмін службы інвентара | Увагі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | К. | | |
| Вёдзер . . . . . . . | | | | | | |
| Рушнікоў . . . . . | | | | | | |
| Лавак . . . . . . . | | | | | | |
| Ануч . . . . . . . . | | | | | | |
| Мыла . . . . . . . | | | | | | |
| Масла . . . . . . . | | | | | | |
| Сала . . . . . . . . | | | | | | |
| Газы . . . . . . . . | | | | | | |
| .................... | | | | | | |
| .................... | | | | | | |
| .................... | | | | | | |

в) Рэмантаваць інвентар у працягу наступнага дню пасьля заявы брыгады.

г) Сыстэматычна ня менш аднаго разу ў дэкаду ўтвараць агляд скота ветурачо

д) Адзін раз у пяцідзёнку заатэхніку ці жывёлаводу склікаць выбарчые н рады брыгады і інструктаваць па пытаньням уходу, утрыманьня і харчаваны жывёлы.

е) У выпадку нясчаснага выпадку з жывёлай, ці хваробы яе — вэтэродапамо павінна давацца па першаму патрабаваньню брыгадзіра.

ж) Наладзіць точны штодзённы вучот работы брыгады.

з) Увесьці да начала работы брыгады прагрэсыўна-здзельна-прэміяльную аплату труда брыгады.

і) Аплату ўтвараць на падставе інструкцыі аб зьдзельна-прэміяльна-прэграсыўнай аплаце, пры чым аплата павінна ўтварацца ў тэрміны прадугледжаные калдагаворам.

к) Сваечасова выконваць прапановы брыгаднікаў, прынятых на вытворчых нарадах.

л) Сэканомленые сродкі ў выніку абразцовага догляду за скатом, абсталеваньне інвентаром, эканоміі кармоў, рацыяналізатарскіх мерапрыёмстваў скарыстоўваюцца наступным парадкам: (прыкладна) да 50% членам брыгады, на тэхвучобу 5-10%, а палепшаньне сац. умоў 15-20% і на гаспадарчае ўзмацненьне саўгасу 25-30%.

м) Адміністрацыя абавязуецца па дэкадна даваць брыгадзе вынікі яе работы, а брыгада ў асобе старшага брыгадзіра дасылае Рэсп. К-ту саюзу.

3. Для падвышэньня сваей кваліфікацыі і для хутчэйшай рэалізацыі ўзятых на сябе абавязацельстваў, брыгада абавязваецца:

а) зьліквідаваць няпісьменнасьць і малапісьменнасьць як сярод сябе так і сярод сваіх членаў сямі'і.

б) Абавязкова ўдзельнічаць у адным з тэхнічных гурткоў саўгасу.

в) Уцягнуць усіх членаў брыгады ў саюз, адначасова актыўна ўдзельнічаючы ў грамацка-палітычным жыцьці саўгасу.

г) Брыгада абавязваецца арганізаваць сваю насьценгазэту і штодзённа асьвятляць вынікі сваей работы.

4. Тэрмін дзейнічаньня гэтага дагавору ўстанаўліваецца з .......... па ..........

**Брыгада:** (подпісы)

**Адміністратар** (подпісы)

„........“ .................... 193...... г.

**...ная зводка аб выніках работ гасразьліковай брыгады.**

.....................................................

.................... Скотны двор № ....................

| Па месяцох | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ...рычнік | | Лістапад | | | Сьнежань | | |
| ...м. | Пера-расх. | Плян. | Эканом. | Пера. расх. | Плян. | Эканом. | Пера-расх. |
| | | | | | | | |

...адміністрацыя на другі дзень пасьля скончэнь-

### Зводка аб выніках работ гасразьліковай брыгады па дэкадах.

Брыгадзір тав.............................. за тэрмін з.............................. па..............................

саўгас.............................. скотны двор № ..............................

| Элементы | Заданьне брыгадзе | Сустрэчны плян брыгады | Выкананьне па дэкадах | | | Усяго з пачатку месяца | % выкананьня пляну |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1-я дэкада | 2-я дэкада | 3-я дэкада | | |
| 1. Удой . . . . . . | | | | | | | |
| 2. Кармы . . . . . | | | | | | | |
| 3. Ацёл . . . . . . | | | | | | | |
| 4. Злучка . . . . | | | | | | | |
| 5. .............. | | | | | | | |
| 6. .............. | | | | | | | |

УВАГА: Гэтая форма падэкадна падлічваецца адміністрацыяй саўгасу.

### Нарад гасразьліковай брыгады

Брыгадзіра тав.............................. на тэрмін з.............................. па..............................

| Прозьвішча асобнага брыгадзіра | Яго дзённае заданьне | Яго сустрэчны плян | Яго выкананьне |
|---|---|---|---|
| | | | |

УВАГА: Паказанная форма складаецца старшым брыгадзірам на падставе агульна-ўзятых абавязацельстваў.

## ПРАКТЫЧНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ

### па арганізацыі зьменна-сустрэчнага плянаваньня як новай вышэйшай формы—сацспаборніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах.

1. Зьменна-сустрэчнае плянаваньне, як новая вышэйшая форма сацспаборніцтва, высунутая па ініцыятыве рабочых індустрыяльных фабрык і заводаў, ставіць сваёй мэтай больш упарта змагацца за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну ў найкарацейшыя тэрміны на тое, каб работа вакол сустрэчных плянаў вялася сыстэматычна, гэта значыць, што высоўваньне сустрэчных плянаў павінна быць пазьменным (на работах, дзе існуюць зьмены), падзённым, пяцідзённым, дэкадным, месячным, квартальным і г. д.

2. Ва ўмовах работы жывёлагадоўчых саўгасаў зьменна-сустрэчнае плянаваньне па высоўваньні сустрэчных плянаў зьменамі, павінна знайсьці адбітак у тэхнічных прадпрыемствах (бровары, крахмальныя заводы, лесапільні, трактарныя калёны), па ўсіх астатніх працэсах работ зьменна-сустрэчнае плянаваньне можа быць выражана ў высоўваньні сустрэчных плянаў не зьменна, а патэрмінна. Прыкладна—даярка на сёньня высунула свой сустрэчны плян ўдою заместа 60 літраў—61—на заўтра высоўвае 63 і г. д., другі прыклад—брыгада касцоў сёньня скасіла заместа пляну ў 4,5 га—5 га, на заўтра высоўвае 5,5 га і г. д.

3. Сустрэчнае плянаваньне можа высоўвацца як цэлай брыгадай, так і паасобным брыгадзірам.

4. Тэрміны высоўваньня зьменна-сустрэчных плянаў павінны брацца мінімальна кароткія ў адпавенасьці з магчымасьцю пастаноўкі па гэтым працэсу работы—вучоту.

5. Арыентыровачныя паказчыкі, па якіх павінна быць арганізавана зьменна сустрэчнае плянаваньне, вызначаюцца наступныя:

а) На скотным двару—захаваньне ацёлу, удой малака, вырсьліваньне маладняка (вага), злучка.

б) На прадпрыемствах перапрацоўкі прадуктаў жывёлагадоўлі: выхад сыру, масла.

в) Па сьвінарніках: зьменшаньне адыходу маладняка, здача адкормачнікаў (вага, злучка).

г) Па трактарнай калёне: успашка, баранаваньне, пасеў, перавозкі, гаручае, уборка, дзіскаваньне і г. д.

д) Па пасеву машынным і ручным спосабам: бульба—колькі га і норма пасеву, такім парадкам і па іншых культурах.

е) Па сенаўборцы: канюшына—колькасьцю га і чаго, такім парадкам і па іншых кармавых культурах.

ж) Па дагляду за пасевам: акучваньне—колькасьць га, таксама і па полцы, прарэжваньні і г. д.

з) Па ўборцы жыта-колькасьць га, таксама і па іншых зернавых культурах, за выключэньнем бульбы, караньплодаў, гародніны і садовіны, для якіх паказчыкам павінна быць вага.

і) Па перавозках: лесаматар'ял—колькасьць, тое самае і па гною, бульбе і г. д.

к) Па апрацоўы ураджаю: малацьба (вага памалоту), сартыраваньне таксама і г. д.

л) Па будаўніцтву: паасобныя работы будаўніцтва—паасобнага гаспадарчага будынку—прыкладна — фундамант, сьцены, дах, печы і г. д.

УВАГА: а) Пры абгаварэньні вынікаў выкананьня сустрэчнага пляну і высоўваньні новага, заўседы павінен падагульвацца і якасны бок выкананай работы.

б) Па іншых відах не прадугледжаных тут работ, па такому прынцыпу вырашыць гэта пытаньне.

6. форма вучоту як для брыгад, а таксама паасобных рабочых, павінна быць створана наступная:

Прозьвішча выконваемага ці брыгады (Іванова Ганна Янкава).

Якая выконваемага работа (паказаць—даярка).

| №№ п. п. | На які тэрмін | Плян | Высунут. сустрэчны плян | Выканан. | УВАГА: |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 29XI-31 г. | 60 літр. | 61 літр. | 61 літр. | |
| 2 | 30/XI-31 | 60 „ | 62 „ | 62 „ | |

7. Адміністрацыя ў адпаведнасьці з далучаемай формай павінна забясьпечыць своечасовы і поўны вучот.

# ПАСТАНОВА.

**Ўнечаргова паседжаньня Прэзыдыума ЦК Саюзу Р. Ж. С. аб здачы таварнай прадукцыі жывёлагадоўчымі саўгасамі.**

*Ад 9/XI-1931 году.*

Ня гледзючы на беспрэчныя дасягненьні ў рабоце жывёлагадоўчых саўгасаў, апошнія маюць яшчэ шэраг буйнейшых недахопаў, заключаючыхся ў адставаньні будаўніцтва і камплектаваньні стада, ў слабым унядрэньні зьдзельшчыны і недастатковым забясьпячэньні стада сочнымі кармамі (сілос) і асабліва ў нездавальняючай работы сагасаў па ўсямернай і поўнай здачы таварнай прадукцыі дзяржаве.

Апошняе выцякае з праціпастаўленьня прыватных мясцовых інтарэсаў саўгасаў к агульным інтарэсам ўсей дзяржавы. Захоўваньне саўгасамі таварнай прадукцыі, праяўленьня рвацкіх патрабаваньняў незаконнага павялічэньня норм выдачы хлеба рабочым, служачым і ўтрыманцам, безкантрольнага разбазарваньня хлебных фондаў, адсутнічаньня точнага вучоту рабочай сілы, павялічэньне патрэбнасьці рабочай сілы і зусім недастатковай барацьбы з вытворчымі стратамі, не беражлівага безгаспадарчага абмалоту зярна, што зьяўляецца **непрыкрытым праяўленьнем апартунізму і буржуазных тэндэнцый з боку асобных дырэктароў саўгасаў.** Ня гледзючы на гэта з боку жывтрэсту не былі прыняты сваечасова належныя меры к ліквідацыі паказанага, ў выніку чаго плян задачы дзяржаве таварнай прадукцыі выконваецца слабымі тэмпамі.

Прэзыдыум ЦК Саюзу РЖС канстатуе, што гэтыя ганебныя зьявішча ў рабоце асобных жыв. саўгасаў не сустрэцілі сапраціўленьня і безьлітаснага разаблачэньня з боку кіраўнікоў арганізацыяй саюзу, якія не мабілізавалі мас для рашучай барацьбы з скажэньнямі ў гаспадарчай дзейнасьці саўгасаў. Пытаньне сацыялістычнага рэжыму эканоміі ў расходваньні прадавольствія і фуражных рэсурсаў, мабілізацыі грамадзкасьці і арганізацыі сыстэматычнага грамадзкага кантролю ў барацьбе з стратамі прадукцыі жывёлагадоўчых саўгасаў, актыўны ўдзел у распрацоўцы ўсіх гаспадарчых разьлікаў, заявак на прадавольствіе фураж, і інш. віды снабжэньня не былі прадметам паўсядзённай работы з боку рабачкомаў і вытворчых нарад саўгасаў.

**Выкананьне і пэравыкананьне хлеба-нарыхтоўчага пляну і пляна здачы другіх відаў таварнай прадукцыі, вытвараемай жывёлагадоўчымі саўгасамі, зьяўляюцца састаўной непарыўнай часткай барацьбы за пасьпяховае ажыцьцяўленьне сацыялістычнай рэканструкцыі ўсей народнай гаспадаркі і соц. жывёлагадоўлі.**

Прэзыдыум ЦК Саюзу РЖС прапануе ўсім арганізацыям саюзу ў прыходзячую ў наступны час кампанію перавыбараў рабачкомаў сасрэдаточыць асобную ўвагу на выкананьне пляваў здачы таварнай прадукцыі дзяржаве жывёлагадоўчымі саўгасамі і на тую ролю, якую адыгрываюць рабачкомы ў скарэйшым і поўным правядзеньні гэтых плянаў.

У разьвіцьцё гэтага прапанаваць рабачкомам жывёлагадоўчых трэстаў:

1. Тэрмінова ўстанавіць паўсядзённы кантроль і па ўдарнаму разгарнуць работу па мабілізацыі ўсей грамадзкасьці жывёлагадоўчых саўгасаў вакол сваечасовай задачы таварнай прадукцыі.

2. Устанавіць стражайшы кантроль за расходваньнем кожнага кілёграма хлеба, фуража, мяса, масла і інш. прадуктаў, тэрмінова сігналізіруя перад савецкімі, прафэсійнымі арганізацыямі раёна, края і ЦК саюзу аб безгаспадарчым і незаконным растранжыраваньні таварнай прадукцыі саўгасаў і аб парушэньні ўстаноўленных Наркамснабам норм снабжэньня, як з боку дырэктараў саўгасаў, так і каапэрацыйных арганізацый саўгаса, патрабуючы на мейсцы тэрміновага прыўлячэньня вінаватых, якія зрызаюць і тармазяць выкананьне промфінпляна да крымінальнай адказнасьці.

3. Ўзяць пад пастаянны і неаслабны нагляд і праверку работы каапэрацыі па расходваньню ёю прадавольственных рэсурсаў—хлеба, мяса, круп і дабіцца ад каапэрацыі саўгасаў точнага вучоту расхода прадавольственных фондаў і колькасьць знаходзячыхся на каапэрацыйным снабжэньні рабочых, служачых і ўтрыманцаў па асобным месяцам.

**Прызнаць практыку выдачы хлеба, мяса, жыроў вышэй норм устаноўленых Наркамснабам, а таксама двайную выдачу хлеба ў адны рукі праз кааперацыю і каапіт.** (столовыя) **праступным растранжырваньнем хлебных** і інш. **таварных** рэсурсаў і даручыць рабачкомам **праверыць** выкананьне з боку каапэратыва і коопіта дырэктыў Наркомснаба аб нормах снабжэньня хлебам для рабочых 800 гр. і служачых і утрыманцаў па 400 гр. у дзень.

У прыватнасьці прапанаваць:

Зьвярнуць асобную увагу на якасьць выпечкі хлеба.

Дабіцца максімальнага прыпёку.

Установіць штодзённы бесперапынны кантроль над якасьцю выпускаемага хлеба.

Хаваньне хлеба і канцэнтратаў павінна быць даручана найбольш праверавым кладаўшчыкам. За састаяньне зернафуража і концэнтратаў мае неаслабны нагляд, не дапушчаючы ні ў якім разе ацяпленьня, запрэваньня і г. д.

Сумесна з дырэктарамі саўгасаў абглядзець усе памяшканьні, ў якіх храніцца прадавольственнае зярно і концэнтранты і весьці неаслабны нагляд за гэтымі памяшканьнямі, як у сэнсе іх становішча, а таксама і з пажарнага боку.

4. Праверыць пробным абмалотам налічча (астаткі) зярна ў абмалочанай саломе і ў выпадку вялікай колькасьці семян у саломе дабіцца перад адміністрацыяй пераабмалоту ўсей саломы і паставіць аб гэтым да ведама органы Наркамснаба раёна і ЦК Саюзу.

5. Улічваючы, што многія кіраўнікі саўгасаў вельмі фармальна адносяцца да пытаньня штатаў, базіруясь на цыфрах патрэбнасьці ў рабочай сіле безаднасіцельна да выкананьня вытворчай праграмы, абавязаць рабачкомы сумесна з адміністрацыяй саўгасаў **тэрмінова** пераглядзець штат рабочых і служачы па асобным апэрацыям работ і ўстанавіць сапраўдную мінімальную патрэбнасьць у рабочай сіле па асобным месяцам, выходзячы з вытворчых заданьняў саўгасу і з вучотам максімума роста вытворчасьці працы.

Прапанаваць рабачкомам штомесячна **праверыць колькасьць рабочай сілы ў саўгасах па адзельным месяцам** і ні ў якім разе, ўплоць да прыўлячэньня да судовай адказнасьці вінаватых асоб, не дапушчаць ізлішняй колькасьці рабочай сілы ў саўгасе.

Прапанаваць рабачкомам разгарнуць масавую работу сярод ўсіх пражываючых на тэрыторыі саўгасу працаздольных членаў сямей рабочых і служачых па ваўлячэньню іх ў вытворчую дзейнасьць саўгасу пад лёзунгам **„ніводнага працаздольнага члена сямьі не павінна быць не занятага на вытворчай рабоце саўгасу“**. Прапанаваць рабачкомам ўсіх не працуючых па найму, ў саўгасе працаздольных членаў сямьі рабочых і служачых, акрамя жонак, **зьняць з снабжэньня ў саўгасе.**

7. Тэрмінова пераключыць работу вытворчых нарад на непасрэдны і практычны ўдзел усяго вытворчага актыву ў гаспадарчым кантролю за дзейнасьцю саўгасаў задач, зьвязаных з максімальным павялічэньнем таварнасьці гаспадаркі, рацыянальным выкарыстоўваньнем усіх вытворчых рэсурсаў і па выкананьню пляна здачы дзяржаве таварнай прадукцыі (зернавых, крупных культур, мяса, масла, малака, воўны, козеіна і інш.)

8. Прэзыдыум ЦК саюзу РЖС абавязуе рабачкомы зьвярнуць ўвагу і ўзяць пад **грамадзкі кантроль мэтады і тэхніку складаньня хлебафуражных балянсаў у жывёлагадоўчых саўгасах.** У віду таго, што зварачваньне хлебафуражных балянсаў большасьці саўгасаў было па сутнасьці кабінетным творчаствам асобных спэцыялістаў і рахунковых работнікаў, прапанаваць рабачкомам **тэрмінова вытварыць праверку хлебафуражных балянсаў на вытворчых нарадах** для утачненьня ўсіх асноўных момантаў, складаючых прыходна-расходную частку балянса (фактычна ўбранная пасяўная плошча, ураджайнасьць, страты пры ўборцы і малацьбе, фактычныя расходы на прадавольствіе па асобным месяцам году, сапраўдная патрэбнасьць на семена і нормы высева, колькасьць рабочых і ўтрыманцаў і інш.).

**9. Прапанаваць рабачкомам тэрмінова рашэньне ЦК Партыі аб Саюзцукру і гэтую пастанову Прэзыдыуму ЦК Саюзу абмеркаваць на шырокіх рабочых сходах і распрацаваць канкрэтныя апэрацыйныя пляны на правер ў жывёлагадоўчых саўгасах здачы таварнай прадукцыі.**

Ва ўсіх выпадках выяўленага ў выніку скажэньня і злоўжываньня ў гас-

падарчай рабоце ў саўгасах, прапанаваць прынімаць рашучыя меры супроць канкрэтных віноўнікаў, як у адносіне кіраўнікоў гаспадарчых, так і ў адносіне прафсаюзных органаў уплоць да зьняцьця з работы і аддачы падсуд.

Папярэдзіць кіраўнікоў краявых, абластных і рэспубліканскіх камітэтаў саюзу і старшынь рабачкомаў жывёлагадоўчых саўгасаў, што невыкананьне з іх боку мер па стражайшай эканоміі хлеба і іншых прадуктаў харчаваньня і адсутнасьць барацьбы з іх боку з стратамі ў жывёлагадоўчых саўгасах, ЦК будзе разглядаць як праяву апартунізму на практыцы, як **прыкрыцьцё безгаспадарчасьці** ў саўгасе, як **нездольнасьць** па бальшавіцкі кіраваць і змагацца з праявамі безгаспадарчасьці і буржуазных тэндэнцый.

Старшыня ЦК **Грігорьеў**

Сэкратар Прэзыдыуму **Каталкін**

---

Зацьвержна Прэзыдыумам
ЦК. ад 31|X-31 г. Пратк. № 24

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

## аб рабоце вытворчых нарад у жывёлагадоўчых саўгасах.

1. Вытворчыя нарады прафэсый, цэхаў, груп, брыгад, вучасткаў і саўгасаў арганізуючы масы рабочых на пасьпяховасьць тэмпаў сацбдаўніцтва, выкананьне і перавыкананьне профімпланаў; ажыцьцяўляючы гэта на аснове разгортваньня сац. спаборніцтва і ўдарнага руху, павінна апірацца ў першую чаргу на ўдарныя брыгады, забясьпечваючы далейшы ўздым актыўнасьці і творчай ініцыятывы рабочых.

2. Хозразьліковая брыгада павінна быць первічнай ячэйкай ваўлячэньня ўсіх рабочых у кіраўніцтва вытворчасьцю.

3. Арганізацыя гасразьлікавых брыгад і зьменна-суетрэчнага плянаваньня, як вышэйшых форм соцспаборніцтва і ўдарніцтва на даным этапе сацыялістычнай рэканструкцыі жывёлагадоўлі, патрабуе караной перабудовы работы вытворчых нарад у саўгасах і падвышэньня ролі вытворчых нарад, як школы масавага ўдзелу рабочых у кіраўніцтве саўгасаў

### I. Зьмест работы вытворчых нарад у саўгасах.

Вытворчыя нарады.

1. Арганізуючы практычныя мерапрыёмствы па разьвіцьці і ўзмацненьні сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, садзейнічаюць арганізацыі яго вышэйшых форм: унядрэньня гасразьліку і зьменна-сустрэчнага плянаваньня ў брыгадах, гуртках, стадах, цэха, сьвінарніках і г. д., уцягваюць у новыя пласты рабочых, работніц, спэцыялістых, правяраюць і абгавараваюць вынікі работы ўдарнікаў, дапамагаюць ім у адхіленьні як іх недахопаў, так і непаладкаў у вытворчых працэсах работ, арганізуюць абмен вопытам і дасягненьнямі паміж брыагадамі, вучасткамі, саўгасамі і асобнымі ўдарнікамі, ўнядраюц сацспаборніцтва індывідуальнае, групавое, брыгаднае паміж прафэсіямі. Асобна вывучае заахвочвае вопыт рабочых вядучых прафесій, праводзячы праз іх і сярод іх вытворча-масвую, агравэтзоотэхнічную адукацыю. Арганізуе праз гэтыя формы вытворчую работу ўсіх рабочых і спэцыялістых на ўсямернае паляпшэньне вытворчых працэсаў і выкананьне вытворчага фінпляну саўгасу.

2. Удзельнічае ў сацыялістычнай арганізацыі працы шляхам:

а) давядзеньня плянаў да кожнай брыгады і асобнага рабочага.

б) Высоўваньне сустрэчнага пляна, брыгады, вучастка саўгасу.

в) Арганізацыя сустрэчнага, зьменна-сустрэчнага плянаваньня ў брыгадах, цэхах, майстэрнях, вучастках, саўгасу.

г) Дапамагае арганізацыі ў практычнай рабоце плянава-апэрацыйны брыгад.

д) Садзейнічае ўвядзеньню і ўнядрэньню зьдзельна-прэміяльнай і прагрэсыўнай аплаты працы.

е) Вядуць работы за поўную ліквідацыю ўраўнілаўкі ў аплаце працы і абязьлічкі ў вытворчасьці.

ж) Вядуць барацьбу з цякучасьцю рабсілы, арганізуюць і правяраюць самазамацаваньне.

з) Вядуць кантроль за вырастаньнем яе пры вытворчасьці работ.

і) Забясьпечваюць перасоўку нізкіх кваліфікацый у вышэйшыя, садзейнічаючы гэтым рабоце вытворчасьці працы.

3. Ажыцьцяўляюць кантроль за ходам выкананьня вытворчага заданьня промфінпляна па брыгадах, цэхах, вучастках і па саўгасу, цалкам для таго:

а) абгаварыць вынікі выкананьня пляна, брыгады, цэха, вучастка, гуртка, сьвінарніка і г. д. памесячна, пакварытальна, па заданьнях сезонна.

б) Арганізуюць штодзенны кантроль выкананьня плянавых заданьняў у гэтых ніжэйжых гаспадарчых зьвеньнях.

в) Садзейнічаюць арганізацыі сталага вучоту выкананьня прамфінпляна і соцдагавароў на вучастках, у брыгадах, сьвінарніках, і г. д.

г) Арганізуюць рабочых на ліквідацыю выяўленых прарываў у выкананьні пляна і вузкіх месц у вытворчасьці.

д) Па пастанове рабачкома саўгасу ці вучастка арганізуюць ЦКК для праверкі і вывучэньня выкананьня асобных вытворчых заданьняў, якія зьяўляюцца органам кантроля прафсаюза над гаспадарнікам

е) Праводзяць сыстаматычную праверку выкананьня рашэньняў ВН і прапаноў рабочых.

ж) Арганізуюць і канталіруюць эфэктыўнасьць сацыялістыыных форм працы.

4. Разгортваюць мерапрыёмствы па рацыяналізацыі вытворчасьці, арганізуюць з рабочых ударнікаў групы рацыяналізатараў і ўносяць гасп. органу свае мяркаваньні па пытаньнях паляпшэньня работы вытворчасьці, барацьбы за адыходам пагалоўя, правілнага выхаваньняма ладняка і зьменшчэньня процэнтаў адходу, эканоміі кармоў, паляпшэньня якасьці вытворчага забясьпячэньня, па ляпшэньне якасьці выпуска жывёлагадоўчай прадукцыі—масла, малака і г. д., эканомнага выдаткаваньня гаручага і змазачнага матар'ялу, паляпшэньня якасьці работы сельска-гаспадарчых маш арудзьдзяў, сельска-гаспадарчага ін тара, транспарта, паляпшэньня ах працы і г. д. Аказваюць усялякую да могу ў разьвіці вынаходзтва. Вядуць радзьбу з валакітай у распрацоўц прасоўваньні прынятых вынаходзтва ўдасканаленьняў. Арганізуюць кант за сваечасовым правядзеньнем у жыц ўсіх прапаноў рабочых вынаходцаў. ганізуюць сыстаматычную дапамог арганізацыі і афармленьні гурткоў бочых вынаходцаў.

5. Праводзяць сыстэматычную боту па ажыцьцяўленьні гасразьлік ўсіх зьвеньнях саўгасу, пасіленьня трысаўгаснага накапленьня, на падст зьнішчэньня безгаспадарчасьці, зніж ня сабекаштоўнасьці, мабілізацыі ун раных рэсурсаў і правядзеньня сапра най эканоміі. Папулярызуюць і замац ваюць у рабочых масах адзінаначал ў саўгасе, вучастку, цэху, брыгадзе дуць барацьбу з яго скажэньнем на пр тыцы.

6. Аказваюць садзейнічаньне ў п вядзеньні на прадпрыемствах адзіна чальля, арганізуюць у дапамогу кір ніцтву саўгасу часовыя кантролы брыгады з ударнікаў, для праверкі вы наньня распараджэньняў як агульна-с гаскіх, так і па асобных работах.

7. Абгаварваюць і высоўваюць к дыдатуры лепшых рабочых ударні на адміністрацыйна-гаспадарчую раб

8. **Прапрацоўваюць** і правяраюць кананьне мерапрыемстваў саўгасу правядзеньні калектывізацыі у акаляю саўгасы вёсках, замацаваньне існую калгасаў, падрыхтоўцы і суцэльнай ка ктывізацыі выкананьню догавару з к гасамі абодвымі бакамі.

9. Ажыцьцяўляюць работу па а еньню рабочымі тэхнічных ведаў шлях

а) заслухоўваньня дакладаў спэц лістых, аграномаў, урачоў, зоотэхні інжэнераў аб тэхнічных свойствах і ўт маньні абгаварваемых на В/Н пытань

б) Удзельнічаюць у арганізацыі с цыялістымі тэхнічнай адукацыі.

10. Ажыцьцяўляюць палажэньне прэміраваньні працуючых за лепш і высокія якасныя і колькасныя паказч работы. Устанаўліваюць эканамічн практычны эфэкт ад эканоміі матар"ял кармоў, сродкаў. Устанаўліваюць ра

ы адлічэньняў ад фондаў прэміраьня на тэхнічнае выхаваньне, культна-бытавое абслугаваньне рабочых і на гаспадарчае узбуйненьне саўгасу. Кантралююць правільнасьць скарыстаньня прэміяльных сродак.

### Арганізацыйная пабудова, парадак і мэтады работы вытворчых нарад у саўгасах.

Вытворчыя народы ствараюцца:

а) ва ударнай гасразліковай бры-:е;

б) у першаістых вытворчых групах ;бочых, аб"яднаных адным вытворчым ацэсам (скотны двор, сьвінарнік, канюя, цялятнікі, птушнік, трактарная бры-,а, сенакосная брыгада і г. д)

в) Вядучых прафесій (масларобаў, нікаў, трактарных калён, палядодаў нш.).

г) Па прафэсыях—даярак, трактарыў, будаўнікоў, пастухоў, скотнікаў.

д) Цэхавыя-рамонтныя майстэрні, слазавод, вэтлячэбніцы, будаўніцтва . д.

е) Вучастковыя—у складзе брыгадзіў ударных і гаспадарча-разьлікавых ыгад і арганізатараў вытворчых нарац.

ж) Агульна-саўгаскія.

УВАГА: 1) Усаўгасах і на вучастках, тэрыыяльна раскіда ных у замен агульна-саўкіх вытворчых нарад склікаюцца вытворя канфэрэнцыі.

2) Для працуючх у кіруючым апараце і канах як саўгасу, гэтак і вучасткаў, арганізуюцца нрмічныя нарады на тых жа прынцыпах, о і вытворчыя нарады.

Групы і ячэйкі рацыяналізатараў, энэргаэйкі, барацьбы за якасьць, плянава-апэрайныя групы уваходзяць у сыстэму вытворчых рад на аснове шырокага ўцягненьня ў сваю боту добраахвотніцкага актыву.

Групавыя, брыгадныя, вытворчыя нарады аўляюцца асноўным зьвяном ва ўсёй сыстэме творчых нарад.

Групавыя і брыгадныя вытворчыя нарады вінны работаць рэгулярна, зьбіраючыся у цьвёрда-установленныя для вытворчых нарад. калядарныя тэрміны; ў неабходных выпадках групавыя і брыгадныя вытворчыя нарады могуць быць склікаеы ў любы нерабочы час Цэхавыя, галінныя і вучастковыя вытворчыя нарады зьбіраюцца па меры патрэбы, але не радзей аднаго раза ў месяц. Агульнасаўгаскіх вытворчыя нарады, або канфэрэнцыі не радзей аднаго раза ў 3 м—цы.

Дзеля падрыхтоўкі пытаньняў да вытворчых нарад пры іх арганізуыцца з ліку ударнікаў і актыўных вучасткаў вытворчых нарад брыгады па вывучэньню асобных пытаньняў: палепшаньня выхаваньня моладняка і зьменшаньне $^0/_0$ $^0/_0$ адыходу, папярэджаньне мажлівых выпадкаў заразных захворваньняў стада, рацыянальнае скарыстаньне кармавых рэсурсаў, як у стойлавы пэрыяд, таксама і у пастбішчны—палепшаньне кармавой гаспадаркі, ўвядзеньне мэханізацыі і ў працэсе работы, якія садзейнічаюць патаненьню і павялічэньню выпускаемай прадукцыі, выяўленьне прычын, якія садзейнічаюць невыкананьню прамфінплянаў зьнішчэньне недахопаў у арганізацыі працы і г. д.

Ва ўсіх неабходных выпадках для правядзеньня пытаньня найбольш складанага характару — вытворчыя нарады з папярэдняга рашэньня рабачкома саўгаса, вучастка, арганізуюць ЧКК (часовыя кантрольныя камісіі) ва агульна - саўгаскім, альбо вучастковым цэхавым маштабе работы.

### III. Кіраўніцтва работай вытворчых нарад.

1. Агульнае кіраўніцтва вытворчых арад на прадпрыемствах, саўгасах жыцьцяўляюць рабачкомы, на вучаст- ;—вучастковыя камітэты, цэху—цэхкамііты. Для практычнага кіраваньня раотай вытворчых нарад на чале кожнай ытворчай нарады — агульнасаўгаскай, участковай і цэхавай высоўваецца з ліку епшых ударнікаў арганізатары вытворых нарад, на якіх ўскладаецца ўся ытворчая работа вучастковага, цэхаага, або агульнасаўгаскага рабачкома.

Для забесьпячэньня нам. дырэктараў у кіраўніцтве вытворчымі нарадамі пры рабачкомах саўгасу і вучастку саўгасу ствараюцца бюро ВН у складзе перадавых ударнікаў і арганізатараў брыгадных ВН, задачай якога павінна стаць штодзённае кіраўніцтва дзейнасьцю групавых ВН, абагульваньне вопыту іх работы, інструктаж арганізатараў і кантроль над рэалізацыяй рашэньняў ВН.

Для кіраўніцтва брыгадамі і групавымі вытворчымі нарадамі вылучаюцца

арганізатары вытворчых нарад з складу ударнікаў першаістай вытворчай брыгады

2. Арганізатары (старшыні) агульнасаўгаскіх вытворчых нарад у буйных саўгасах зьяўляюцца адначасова памоцнікамі дырэктароў па рабоце вытворчых нарад, у веданьні якіх знаходзіцца бюро рацыяналізацыі. Там дзе не маецца пам. дырэктароў у рабоце вытворчых нарад, гэту работу выконваюць арганізатары вытворчых нарад пры рабачкомах і ажыцьцяўляюць яе непасрэдна праз рабочы камітэт. Арганізатары вытворчых нарад, пам. дырэктароў дзейнічаюць на падставе палажэньня аб памоцніках дырэктароў.

3. Арганізатары вытворчых нарадпадрыхтоўваюць парадак дню да вытворчай нарады, арганізуюць скліканьне вытворчых нарад, кіруюць іх правядзеньнем, перадаюць прапановы рабочых і вытворчых нарад адмістрацыі і кантраліруюць іх выкананьне.

4. Брыгадныя арганізатары вытворчых нарад работаюць пад непасрэдным кіраўніцтвам вучастковых, цэхавых і другіх арганізатараў вытворчых нарад. Арганізатары вытворчых нарад пры цэхавых, вучастковых і агульна-саўгаскік камітэтах—склікаюць пэрыядычныя нарады групавых і брыгадных арганізатараў вытворчых нарад для напрамку іх работы, абагульваньня вопыту, абгаварэньня пытаньняў пляна у агульных пытаньнях работы.

## IV. Кантроль за выкананьнем рабочых прапаноў.

I. Арганізатары вытворчых нарад арганізуюць прыток рабочых прапаноў па паляпшэньні вытворчасьці ня толькі ў час ходу вытворчай нарады, але штодзённа у бягучай рабоце саўгасу.

2. Прапановы рабочых, паступаючых у бягучым парадку ідуць к арганізатару вытворчых нарад і перадаюцца ім непасрэдна адміністрацыі (вучастка, цэха, брыгады, групы), без пастаноўкі на вытворчых нарадах у тым выпадку, калі не патрабуецца спэцыяльнага абгаварэньня прапаноў.

Увесь вучот работы вытворчых і рабочых прапаноў, выкананьня і эфэктыўнасьці, вядзе адміністрацыя саўгасу, вучастка.

3. Вытворчыя нарады арганізуюць пэрыядычна часовыя кантрольныя брыгады для праверкі выкананьня прапаноў і ставяць пытаньне аб прыцягненьні да адказнасьці асоб вінаватых у невыкананьні прынятых прапаноў, кіруючыся ў даным выпадку інструкцыяй Саўнаркома СССР ад 31/VIII 1929 г., якая абавязвае гаспадарчыя аб'яднаньні да своечасовага выкананьня рабочых прапаноў.

4. Вытворчыя нарады арганізуюць выканьне сіламі рабочых тых сваіх прапаноў, якія не патрабуюць адміністрацыйнага распараджэньня, а залежаць ад саміх рабочых, даючы канкрэтныя заданьні ўдарным брыгадам, накіраваныя да лепшага выкананьня вытворчага заданьня.

## Усім рабачкомам месткомам і прафкомам саюзу Р. Ж. С.

Беларускі Камітэт Саюзу РЖС на аснове ўказаньня ЦК н/саюзу прапану зрабіць праверку і ацэнку маёмасьці і грашовых каштоўнасьцяй рабачкомаў п становішчы на 1-е студзяня 1932 г., згодна ніжэй друкуемай інструкцыі.

Рабочым камітэтам прапануецца зараз-жа распчаць работу згодна інструкць па пытаньням:

1) спагнаньня грошай выданых рабачкомам узваротна (калі гэткія выпадк маюцца) §-12 інструкцыі;

2) поўнага пераводу ЦК н/саюзу цэнгралізаваных сродкаў §-13 інструкцыі;

3) поўнай ліквідацыі запазычанасьці па членскім узносам і пераводу апош ніх у ЦК §-14 інструкцыі;

4) перадачы недарасходваных грошай на лікбез і ўсеабуч §-15 інструкцы

Усю работу па праверцы і ацэнцы маёмасьці і каштоўнасьцяў прапануецц правесьці своечасова і з такім разьлікам, каб увесь матар'ял, згодна інструкць быў даслан нам к 5 студзеня 1932 г.

Заг. арг. сэктару БРК саюзу Краўчэнка.
Бхугальтар Чарнуха.

# ІНСТРУКЦЫЯ

**Па праверцы і ацэнцы маёмасьці, грашовых каштоўнасьцяў і разрахункаў па рабочых камітэтаў Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасах па становішчы на 1-е студзеня 1932 года.**

### I. Агульная частка.

1. Надаючы справе вучоту важнае значэньне, Беларускі Камітэт саюзу РЖС, на аснове ўказаньня ЦК н/саюзу, прапануе ўсім рабачкомам зрабіць па становішчы на 1-е студзяня 1932 г. самую поўную інвэнтарызацыю ўсёй маёмасьці і праверку грашовых каштоўнасьцяў і разрахункаў рабачкому.

2. Фактычная опісь маёмасьці і грашовых каштоўасьцяў, як правіла, пачынаецца з 31-га сьнежня 1931 г. і павінна быць скончана 1-га студзеня 1932 г.

3. Для правядзеньня памянёнай працы рабачком вылучае брыгаду ў колькасьці 3 асоб (члена рабачкому, члена рэўкамісіі і члена к/савета). Старшынёй брыгады і адказным за правядзеньне зьяўляецца член рабачкому.

4. Опісь маёмасьці складаецца ў 2-х экзэмплярах з якіх 1 экз. застаецца ў справах рабачкому а другі перасылаецца Рэсп. К-ту не пазьней 5-га студзеня 1932 г. (Менс, дом працы). Опісі маёмасьці падпісваюцца брыгадай і асобай прыняўшай маёмасьць.

На грашовыя каштоўнасьці складаюцца акты таксама ў 2-х экз. і адзін з якіх перасылаецца Бел. Камітэту.

5. Па складаньні опісяў і актаў фактычнай наяўнасьці апошніх заканчваецца работа брыгады.

### II Праверка грашовых сум і каштоўных папер.

6. Брыгада 31-га сьнежня г. г. выяўляе па грашовых справах рабачкому як павінен быць астатак на 1-е студзеня 1932 г. і што ў сапраўнасьці маецца (колькі грошай на рахунку ў банку і колькі наяўнымі ў скарбніка). Выяўленыя наяўныя грошы ў скарбніка павінны зараз жа быць унесены ў банк ці ашчадкасу.

7. Выявіць ці ёсьць каштоўныя паперы ў рабачкоме (аблігацыі) і паверыць ці ўсе маюцца, згодна опісі.

Усе тэрміновыя купоны ў аблігацыях адразаюцца (па якіх належаць грошы) і 31 сьнежня г. г. рэалізуюцца ў банку і выручаная сума прыходуецца па рэьдзелу „даходы“, пасьля чаго на аблігацыі складаецца опісь з паказаньнем: назва аблігацый іх №№ і намінальная каштоўнасьць. Памянёныя аблігацыі, згодна опісі здаюцца банку ці ашчадкасе на захаваньне.

8. Устанавіць якая сума марак для ўзыманьня членскіх узносаў маецца ў наяўнасьці ў рабачкоме на 1-е студзеня 1932 г. Для таго, каб зьверыць рахунак па марках—усе сабраныя членскія ўзносы да 1/I-32 г. прапануецца перавесьці ЦК н/саюзу, згодна ранейшага н/указаньня. Пры запісу ў акт аб наяўнасьці марак патрэбна ўказаць, што гэта сума марак маецца пасьля пераводу ЦК такой та сумы членскіх узносаў. (Прыклад: маецца марка у наяўнасьці на суму 100 р., пасьля пераводу членскіх узносаў у суме 65 р. ЦК).

### III. Праверка маёмасьці.

9. Брыгада складае опіс маючайся маёмасьці ў рабачкоме, клюбе і г. д. па форме № 1 з ацэнкай і ўказаньнем дзе гэта маёмасьць знаходзіцца (форма № 1 дакладаецца). На недахапаючую маёмасьць, згодна ранейшай опісі—высьвятліць за кім апошняя лічыцца і ўзыскаць з асобы, адказнай за маёмасьць у судовым парадку.

10. На маючуся бібліатэку—павінен быць каталёг, праверыць па апошнім наяўнасьць кніг. Калі каталёгу няма, скласьці апошні і ён застаецца ў рабачкоме. У акце толькі запісаць, што маецца бібліатэка і згодна каталёгу налічвае толькі та кніга—на суму такую та

### IV. Праверка разьлікавых рахункаў.

11. Усе сумы, выданыя п/справаздачу, як правіла, 31-га сьнежня г. г. закрываюцца, г. зн авансісты абавязаны прадставіць свае справаздачы ў расходваньні сродкаў і здаць астаткі грошай у касу рабачкому.

Невыкананьне вышэйпаказанага разглядаецца як растрата і віноўныя павінны прыцягвацца да адказнасьці.

12. Калі маюцца асобы, якія павінны рабачкому грошы, то апошнія зараз жа ўзысківаюцца з запазычнікаў, неastaнаўліваючы перад перадачай справы ў суд.

**V. Пералічэньні саюзным арганізацыям.**

13. Брыгада праверае ці поўнасьцю пераведзены грошы ЦК н/саюзу на цэнтралізаваныя мерапрыёмствы (16,7% ад атрыманых налічэньняў ці 16 р. 70 к. з кожных 100 руб.) і калі грошы поўнасьцю не пераведзены, то апошнія перавесьці ЦК, згодна н/указаньня.

14. Да 1-га студзеня 1932 г. павінна быць абавязкава зьліквідавана запазычнасьць па членскіх узносах з боку членаў саюзу і сабраныя грошы да паказанага тэрміну павінны быць пераведзены ЦК н/саюзу, згодна н/указаньня.

15. Сродкі зацьверджаныя па каштарысу на ўсеабуч і лікбез перадаюцца райпрафсавету. Пры разьліку трэба вучэсьці суму расходаваную рабачкомам непасрэдна на лікбез і ўсеабуч, а апошнюю суму здаць райпрафсавету.

**Фінсэктар Рэсп. К-ту Саюзу РЖС**

Форма № 1

# ОПІС

## МАЁМАСЬЦІ (ЦІ МАТАР'ЯЛАЎ) ПА СТАНОВІШЧУ НА 1/1-32 г.

........................................................................(месца хаваньня)

........................................................................рабачкому

| №№ п. п. | Старыя інвент. №№ | Новыя інвент. №№ | НАЗВА | Ёсьць у наяўн. | Значыцца па кнігах | | Недастача | | Лішкі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Кольк. | Кол. | Сума | Кол. | Сума | Кол. | Сума |
| | | | | | | | | | | |

УВАГА 1-я: Калёнка „новыя інвентар, №№" запаўняюцца ў выпадку, калі неабходна набіваць новыя №№, дзякуючы асобай заблытаннасьці маёмасьці ці па якіх-небудзь іншых прычынах.

2-я: Опісы запаўняюцца камісіямі ўтвараючымі інвэнтарызацыю.

## Усім рабачкомам, мясцкомам і прафкомам саюзу Р.Ж.С.

У Беларускім Камітэце маюцца зьвесткі, што камандыруемыя на мейсцы паправядзеньні рознага роду кампаній ў профрабоце, работнікі Рэспубліканскага Камітэту, а таксама і ЦК атрымоўваюць у рабачкомах грошы як ўзваротна, так і за кошт камандыраваных іх арганізацый.

Прапануецца ніякіх грошай на рукі нікому з камандыруемых не выдаваць У выпадку парушэньня нашай прапановы, выданная сума будзе аднесена за рахунак асобы, выдаўшай апошнюю.

Адначасова напамінаем, што ўсе членскія ўзносы і сродкі на цэнтралізаваныя мерапрыемствы (16 р. 70 к. ад кожных 100 рублёў адтрыманных налічэньняў ад гаспадаркі) безгаворачна перасылаюцца выключна ЦК н/саюзу.

З прычыны невыкананьня фінпляну, прапануецца тэрмінова ліквідаваць запазычанасьць і без затрымкі выслаць у ЦК саюзу членскія ўзносы і сродкі на цэнтралізованыя мерапрыемствы.

Заг. Арг. Сэктару БРК Саюзу РЖС (Крачўэнка)

Бухгальтар (Чарнуха)

Выдавецтва Бел. Рэсп. К-т Саюзу Рабочых Жывелагадоўчых саўгасу. Адказны рэдактар Краўчанка.

Галоўлітбел № 2993. Заказ № 999—500 экз. Друкарні М. Ф.-П. К.